 


# ПАГОНЯ

Чацвер
9 верасня 1999 г.
№ 54 (431)
Кошт 50.000 руб.


## Час падцягваць папругі

**Пытанні забеспячэння камбікармамі жывёлагадоўчай галіны абмяркоўваліся на пазачарговым пасяджэнні Гарадзенскага аблвыканкама, якое прайшло напачатку гэтага тыдня.**

У ім узялі ўдзел кіраўнікі абласной «вертыкалі» усіх узроўняў. Адзначалася, у прыватнасці, што ў сувязі з недаборам зерня, сёлета ў вобласці ўзніклі сур'ёзныя праблемы. Так, для планавай вытворчасці камбікармоў неабходна набыць 220 тысяч тон зерня, а на спажывецкія патрэбы неабходна мець 30 тысяч тон харчовай пшаніцы. Агульны кошт неабходных для гэтага сродкаў складае 26 мільёнаў даляраў ЗША. Вядома, вобласць такімі сродкамі не валодае. У выніку пасяджэння прынята рашэнне аблвыканкама для суб'ектаў гаспадарання — незалежна ад форм уласнасці —ўстаноўленыя дзяржаўныя заданні па выдзяленні канверсоўнай валюты, а таксама валютаўтвараючых тавараў.

Банкі вобласці атрымалі штомесячнае заданне па выдзяленні крэдытаў пад 50 працэнтаў стаўкі рэфінансавання для бартэрных здзелак і набыцця валюты.

**Антон Лабовіч**

## Замест вучобы - на палеткі!

Гарадзенскі аблвыканкам зацвердзіў распараджэнне аб накіраванні студэнцкіх сельскагаспадарчых атрадаў з навучальных устаноў на сельгасработы. Усяго на ўборцы ўраджаю сельгаспрадукцыі гэтай восенню будзе задзейнічана 8 тысяч 800 навучэнцаў вучылішчаў і тэхнікумаў, якія выедуць у гаспадаркі вобласці 6 верасня. Найбольшая іх колькасць будзе накіравана ў Лідскі, Гарадзенскі і Ваўкавыскі раёны: 1220, 1085 і 860 чалавек адпаведна. Навучэнцы не паедуць толькі ў Свіслацкі раён.

**Ася Куніцкая**

## Гарадзенцы - самыя стойкія

**Большасць прадпрымальнікаў краіны выйшлі сёння на свае працоўныя месцы. Усё яшчэ не працуюць рэчавыя рынкі Баранавічаў (Брэсцкая вобласць) і Гродна.**

Пра гэта паведаміла намеснік старшыні Аб'яднанага камітэта прафсаюза прадпрымальнікаў Мінска Мая Сінайская. Паводле яе слоў, 8 верасня ў віцэ-прэм'ера Генадзя Навіцкага павінна адбыцца рабочае пасяджэнне, у якім возьмуць удзел прадстаўнікі прафсаюзных структур з усіх рэгіёнаў краіны, а таксама намеснікі старшыняў абласных выканаўчых камітэтаў, прадстаўнікі МУС, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства гандлю, Міністэрства фінансаў, Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, Камітэта дзяржаўнага кантролю, Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, аддзелу фінансавых расследаванняў пры Савеце Міністраў Беларусі. Падчас пасяджэння плануецца абмеркаваць пытанні, звязаныя з увядзеннем у дзеянне асобных палажэнняў дэкрэта А.Лукашэнкі N 14 ад 4 жніўня 1997 года «Аб некаторых захадах па ўпарадкаванні эканамічных адносінаў».

Прадстаўнікі прафсаюзаў маюць намер запатрабаваць ад улад выдзеліць асобным пунктам патрабаванні, якія датычацца прыватных прадпрымальнікаў, аддзяліўшы іх ад патрабаванняў, якія адносяцца да юрыдычных асоб. Як заявіла М.Сінайская, калі прадстаўнікі прафсаюзаў рэспублікі не знойдуць кампраміснага рашэння з уладамі, яны плануюць з 1 кастрычніка распачаць арганізаваную акцыю пратэсту са страйкамі і нявыплатай падаткаў у бюджэт.

**Вольга Кандрацева**

# Як сталіністы адключылі ў ПАГОНІ электрычнасць

**У мінулую пятніцу, 3-га верасня, у ПАГОНІ цэлы дзень была адключана электраэнергія. У сувязі з гэтым амаль на сем гадзін работа рэдакцыі была паралізавана. Нехта Ваня (электрык ЖЭС-5) ужо зранку, дзелавіта пасмоктваючы цыгарэту, «выдраў» з гнёздаў засцерагальнікі і паставіў на электрашчыток пломбу. Тым самым паставіў сябе і сваё ведамства вышэй за «Закон аб друку», і Сусветную дэкларацыю правоў чалавека, дзе права свабодна і беспераШкодна збіраць і распаўсюджваць інфармацыю за журналістамі замацавана на самым высокім узроўні.**

Гэтай рашучай акцыі камунальных цэнзараў папярэднічала перадача нам пад роспіс 1-га верасня некалькіх лісткоў папяроснай паперы, дзе начальнік ЖЭС-5 Л.Трацэўская і бухгалтар Т.Сінякова, паведамілі што па стану на 1.08.99 года мы маем перад імі вялікую запазычанасць у памеры 17 мільёнаў 784 тысячы 480 рублёў. Ад нас патрабавалася заплаціць усё ў поўным аб'ёме да 3-га верасня, інакш «на основании соглашения N959 от 25.07.97 года Гродненские электросети дают согласие на отключение от сети арендаторов ЖРЭУ».

Улічваючы, што ніякай запазычанасці перад камунальнікамі мы не мелі, мы проста пасмяяліся над камунальнай законатворчасцю, якая не толькі не адпавядае законам Беларусі, але і не стасуецца нават з законамі логікі. І сапраўды, прычым тут аплата за арэнду да электраэнергіі?! Хіба што «в огороде бузина, а в Киеве дядька». Аднак ужо ў пятніцу нам было не да смеху...

Адчайныя спробы вырашыць пытанне на тэлефону ні да чаго не прывялі. Шматлікія дзяжурныя, якія сядзелі на месцы, адказвалі за сваіх непаседлівых начальнікаў, што трэба чакаць, чакаць... Нарэшце, выбіраюся непасрэдна ў ЖРЭУ Ленінскага раёна Гродна.

- Арандатары завінаваціліся нам мільярды грошай. Ёсць людзі, якія не аплочваюць за кватэру гадамі, - гаворыць галоўны інжынер ЖРЭУ Ціханаў. -Таму мы атрымалі ад улады дазвол на такія дзеянні... Я разумею, што вы за дэмакратыю і таму падобнае... Але у 37-ым годзе пры Сталіне за раскраданне сацыялістычнай маёмасці Вас бы проста расстралялі...

Вось як усё проста. Спачатку прыхільнікі Сталіна з дзяржаўнымі пасадамі даводзяць беларусаў да жабрацтва, заганяюць прадпрыемствы ў фінансавы тупік. А потым прапануюць «простыя рэцэпты» аздараўлення эканомікі - кулю ў патыліцу, Курапаты, ГУЛАГ... Такім людзям і ў галаву не прыходзіць, што ў сталінізма-лукашызма ёсць альтэрнатыва. І гэтай альтэрнатывай з'яўляюцца высокія заробкі, якіх хапае не толькі «на чарку і шкварку», але і на камунальныя паслугі. Гэтай альтэрнатывай з'яўляецца дэмакратыя, правы чалавека, рынкавая эканоміка, выкананне законаў, а не атрыманых злачынных загадаў...

...Уключэнне электраэнергіі адбывалася вельмі будзённа. Высветлілася, што камунальны бухгалтар залічыў нас у злачынцы памылкова. Самы галоўны для гарадзенскіх журналістаў - электрык з ЖЭС-5 - сарваў пломбу, устанавіў засцерагальнікі... Ажылі камп'ютары, факс...

Прабачэнняў ні ад каго за сапсаваныя нервы і змарнаваны час мы не атрымалі. Застаўся нявыказаным і аргумент у нашай спрэчцы са спадаром галоўным інжынерам Ціханавым:

- Паважаны спадар Ціханаў, я не ведаю, ці расстралялі б Вас у 37-ым годзе за тое, як кепска працуюць падначаленыя Вам людзі. Аднак думаю, што дзесяць гадоў Калымы з поўным паражэннем у правах Вам асабіста было б забяспечана.

**З гарачым камуністычным прывітам,**
**Мікола Маркевіч,**
**галоўны рэдактар ПАГОНІ**

## Ці прыдасца сусветны досвед?

**Прадстаўнічы семінар з удзелам вядомых беларускіх правазнаўцаў, палітыкаў і грамадскіх дзеячоў пройдзе 11-12 верасня ў Гродне.**

Тэма семінара, арганізаванага цэнтрам Канстытуцыяналізма і параўнаўча-прававых даследаванняў (Менск) - «Выбарчае права -сусветны досвед і Рэспубліка Беларусь». У праграме мерапрыемства -выступ суддзяў Канстытуцыйнага суда ў адстаўцы Аляксандра Вашкевіча і Міхаіла Чудакова, былога старшыні Вярхоўнага Савета Аляксандра Дабравольскага і Сямёна Домаша ды іншыя вядомыя ў Беларусі асобы.

**Вітаўт Руднік**

## Новы сезон - новыя песні

**19 верасня Гарадзенскі абласны тэатр лялек пасля летніх вакацыяў зноў гасцінна адчыняе свае дзверы і запрашае на ўрачыстае адкрыццё новага тэатральнага сезону.**

Пачнецца свята для юных гледачоў у 11.30 уласна цырымоніяй адкрыцця і пушкінскім спектаклем «Казка пра цара Салтана», а для дарослых працягнецца ў 19.00 пастаноўкай неўміручых купалаўскіх «Тутэйшых». Пасля спектакля гледачоў чакае прыемная вечарына ў тэатральным «Клубе творчай інтэлігенцыі». Публіку абяцаюць парадаваць сваімі свежымі творамі бард Віктар Шалкевіч і паэт Юры Гумянюк.

Новы тэатральны сезон адметны і новымі пастаноўкамі. Ужо 26 верасня чакаецца прэм'ера спектакля «Прыгоды Пінокіо» паводле казкі італьянскага пісьменніка XIX стагоддзя К.Калодзі. Музыку да гэтай рэчы напісаў кампазітар Сяргей Бельцюкоў, сцэнаграфію і лялек стварыў мастак Алесь Сураў, а рэжысуе спектакль Мікалай Андрэеў. Дарэчы, у бліжэйшых планах гэтага рэжысёра пастаноўка «Снежная каралева» паводле вядомай казкі Г.Х.Андэрсэна.

**Ігар Гандлеўскі**

## «Забарона на прафесію» паводле Гарэліка

**Чацвёра выкладчыкаў Гарадзенскага медыцынскага інстытута, у прыватнасці, кіраўнік Гарадзенскай Рады Народнага Фронту Сяргей Мальчык, былі днямі выкліканы да рэктара Пятра Гарэліка. Падчас гэтага выкліку яны былі папярэджаны рэктарам пра недапушчальнасць актыўнай палітычнай дзейнасці ў шэрагах Беларускага Народнага Фронту з выкладчыцкай дзейнасцю ў мединстытуце.**

Два гады таму былы рэктар Зміцер Маслакоў вынес спадару Мальчыку строгую вымову. Фармулёўка той вымовы гучала таксама анекдатычна: палітычныя погляды Мальчыка не дазваляюць яму займацца выхаваўчай работай са студэнтамі.

# Не адкладвайце падпіску на заўтра!

Мы вымушаныя ў два разы павялічыць кошт нашай газеты. Трэба адзначыць, што гэтая падвышка ў 1999 годзе не будзе апошняй. Таму мы раім сваім сталым чытачам аформіць падпіску на ПАГОНЮ, бо мы палічылі мэтазгодным не мяняць падпісны кошт, ні цяпер, ні на працягу бліжэйшых чатырох месяцаў.

Спадзяемся на Ваша разуменне і падтрымку!!! І перш за ўсё таму, што сёння беларускай газеце няма ад каго чакаць падтрымкі і дапамогі акрамя як ад беларусаў - гэта значыць ад Вас, нашыя паважаныя чытачы.

**Нагадваем, што кошт падпіскі на нашу газету - 200 тысяч рублёў на месяц. Падпіска на квартал - 600 тысяч рублёў. Падпісны індэкс - 63 124.**

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што ПАГОНЯ мае таксама падпісны індэкс для ведамаснай падпіскі - 63 348. Гэта значыць, што ПАГОНЮ можна выпісаць па безнаяўнаму разліку на прадпрыемствы, установы, калгасы і г. д. Кошт ведамаснай падпіскі ў тры разы даражэй: на месяц 600 тысяч, на квартал 1 мільён 800 тысяч рублёў.

## Чаму трэба выпісаць ПАГОНЮ?

♦ таму, што Вы будзеце атрымліваць аператыўную і аб`ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Прынямонні і на Беларусі.

♦ таму, што падпісаўшыся на нашу газету, Вы не словам, а справай дапаможаце нам у гэты цяжкі час, унясеце важкі ўклад у пабудову новай Беларусі.

♦ таму, што гэта Ваша газета!!!

Ф. РД-1 | Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"** (назва выдання) | Колькасць камплектаў: 1

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 600 тыс. руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

НАДВОР'Е



**10 і 11 верасня** - пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +8...+13, удзень +20...+25.

 

# Ці ўдасца эксперымент з «Рацыянальным домам»?

**У верасні ў Гродне будзе закладзены фундамент першага жылога дома ў рамках праграмы «Рацыянальны дом». Першынец будзе складаецца са 142 кватэр агульнай плошчай 9,3 тысячы квадратных метраў.**

## 1. Мара можа стаць рэальнасцю

Мара мець асабістую добраўпарадкаваную кватэру застаецца недасягальнай для большай часткі беларускіх грамадзянаў. Сітуацыя яшчэ пагоршылася за апошнія 10 гадоў, калі зусім не будуецца сацыяльнае жыллё. Цяпер немагчыма атрымаць кватэру. Можна толькі купіць за свае асабістыя грошы. Калі пралічыць магчымасць сярэднестатыстычнага беларуса назбіраць хаця б 9 тысяч «зялёных» на захудалую аднапакаёвую хрушчоўку, атрымаецца наступнае. За 25 гадоў назбіраецца патрэбная сума, калі чалавек не будзе есці і апранацца, штомесяц адкладваючы ўвесь сярэдні заробак у 30 даляраў.

«Рацыянальны дом» абяцае кардынальна змяніць сітуацыю на жыллёвым рынку. Генеральны дырэктар Інвестыцыйна-будаўнічай асацыяцыі (ІБА) «Рацыянальны дом» Уладзімір Лапацін на прэс-канферэнцыі, прысвечанай пачатку будаўніцтва на вуліцы Кабяка першага дома ў рамках названай праграмы, заявіў, што 70-80 працэнтаў сем'яў зможа пабудаваць сабе новую кватэру. Эксперты сцвярджаюць, што агульная колькасць сем'яў, што змаглі б палепшыць свае жыллёвыя ўмовы з іх дапамогай, перавысіць 500 тысяч.

Давер выклікаюць многія факты праграмы.

Першае - гэта кошт: адзін метр агульнай плошчы ацэньваецца ў 180-200 даляраў. Камерцыйны кошт - 350-450 даляраў ЗША.

Другое - кватэры абяцаюць быць камфартабельнымі, са свабоднай планіроўкай і з сучасных матэрыялаў.

Пачнем з таго, чым будзе адрозніваца новая, «рацыянальная», кватэра ад звыклай у тыпавым буйнапанэльным доме. Будаўнікі «Гроднажылбуда» абяцаюць, што новыя дамы будуць мець павышаныя спажывецкія якасці. Адмяняюцца чатырохметровыя куханькі, цесныя прыбіральні і «сядзячыя» ванны. Асноўны прынцып новабудоўлі - свабодная планіроўка. Самыя забяспечаныя забудоўшчыкі могуць нафантазіраваць сабе асабісты ліфт, асабісты ўваход і шматузроўневую кватэру. Асобы з больш сціплымі запатрабаваннямі за свае грошыкі атрымаюць як мінімум вялікую кухню-сталовую, немалы хол, уцепленыя сцены, аўтаномнае ацяпленне і награванне вады. Сучасныя айчынныя матэрыялы: сталярка, паркет, шатровы металічны дах, паводле словаў намесніка генеральнага дырэктара «Рацыянальнага дома» Віктара Ветрава, гарантуюць 50 гадоў функцыянавання дома без капітальнага рамонту.

Другая, не менш прынадная частка праграмы «Рацыянальны дом», тычыцца спосабу накаплення. Удзельнікі праграмы маюць мажлівасць засяліцца ў новую кватэру, выплаціўшы толькі 50 працэнтаў ад агульнага яе кошту. Другую палову можна ўносіць у растэрміноўку, ужо адсвяткаваўшы ўваходзіны.

## 2. «Халявы тут няма», -

сцвярджаюць у «Рацыянальным доме». Сістэма накапленняў тут не мае нічога агульнага з ільготнымі крэдытамі, што падрывалі эканоміку і фінансавую сістэму краіны да апошняга часу. Кіраўнікі праграмы параўноўваюць сваю сістэму будназапашванняў з беларускай талакой ці германскімі касамі ўзаемадапамогі. Адпаведна словам дырэктара гарадзенскага філіяла «Рацыянальнага дома» Мікалая Семянчука, прынцып будназапашванняў узнік яшчэ ў 17 стагоддзі ў Англіі і апраўдаў сябе паўсюдна ў Еўропе. Германія, Чэхія, Славакія, Венгрыя, Польшча - краіны, што перажывалі дэфіцыт жылля, - адбудаваліся пасля вайны з дапамогай гэтай самай сістэмы.

Прынцыповым адрозненнем «Р. Д.» ад сістэмы далявога будаўніцтва з'яўляецца спосаб доўгатэрміновых назапашванняў. Грошы назапашваюцца не ў «драўляных» рублях, а ў квадратных метрах. А метры жылля, як вядома, інфляцыі не падуладныя. Вось удзаражэць яны могуць. Выкупленыя метры, паводле сцвярджэння Уладзіміра Лапацiна, індэксавацца не будуць. Такім чынам, не трэба будзе ўвесь час даплочваць за недабудаваную кватэру астранамічныя сумы з улікам інфляцыі.

Выкупленыя метры застануцца з вамі. Калі ж вы пажадаеце выйсці з праграмы, то, згодна з Палажэннем аб жыллёвых накапленнях і крэдытах у інвестыцыйнай праграме «Рацыянальны дом», інвестар «атрымлівае накопленую суму з поўнай індэксацыяй». Прасцей кажучы - аплочаныя метры прадаюцца па сапраўднаму даляраваму курсу. Адпаведна меркаванняў фінансістаў, інвеставанне праграмы можа стаць выгадным укладаннем капіталу.



Генеральны дырэктар асацыяцыі «Рацыянальны дом» Уладзімір Лапацін (на здымку - трэці злева) на прэс-канферэнцыі заявіў: «Я Гродна люблю больш за ўсе абласныя цэнтры - таму з яго ўсё пачынаецца».

## 3. Як развітацца з цешчынай канапай

Чым займаецца сярэднестатыстычны жанаты мужчына ўвечары? Правільна, п'е піва ці ляжыць на канапе. Прычым, часцей на цешчынай, бо перспектыва набыць асабістую кватэру не свеціць. Між тым, нават сям'я з сярэднімі даходамі можа паспрабаваць уключыцца ў праграму «РД.». Разлікі наступныя. Сям'я з трох чалавек з абодвума працуючымі бацькамі штомесяц зарабляе прыкладна 100 даляраў. Многія маюць так званыя ценявыя крыніцы даходу. Калі той самы чалавек падымецца з канапы і добра напнецца - то падзаробіць яшчэ. Калі выплочваць з агульнага сямейнага бюджэту штомесяц па 18-19 мільёнаў (30-35 даляраў), то праз 15 гадоў уся сума за кватэру будзе ўнесена. Пры гэтым ужо праз 6-7 гадоў, калі будзе аплочана 50 працэнтаў кошту, сям'я будзе жыць у новай кватэры. Калі ёсць магчымасць узяць крэдыт на жыллё - тэрмін засялення скарачаецца да 3-4 гадоў.

Аднак не трэба забывацца, што бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы. Супрацоўнікі праграмы сцвярджаюць, што яна не мае нічога агульнага з сумнавядомымі фінансавымі пірамідамі. Акрамя заманлівых выгодаў, праграма будназапашванняў мае і свае спосабы абароны ад недобрасумленных інвестараў. Згодна з нарматыўнымі дакументамі, «калі сумарная затрымка крэдытных выплат перавышае шэсць месяцаў, інвестар абавязаны вызваліць занятую ім кватэру». Пры гэтым магчымыя два выйсці. Першае - перасяленне ў іншую кватэру, якая б адпавядала фактычнаму ўнёску інвестара. Другое -скасаванне дамовы і вяртанне укладзеных сродкаў у адпаведнасці з індэксацыямі».

## 4. Права першай ночы за «доўгія грошы»

Тэндэр на будаўнічыя работы выйграў «Гроднажылбуд» у ліпені. Першы дом у Гродне плануецца здаць у чэрвені 2000 года. Праўда, паводле словаў галоўнага інжынера «Гроднажылбуда» спадара Алега Ушкевіча, было вырашана адмовіцца ад эксперыменту. Каб першы блін не выйшаў камяком, першы дом будзе не эксперыментальным, каркасным з палепшанымі ўласцівасцямі, а звычайным, у традыцыйных канструкцыях. Усе наступныя забудовы, закладзеныя ў каштарыс, будуць, як і абяцана, новымі.

Гродна - першы абласны цэнтр, дзе, апроч Менска, адкрыты філіял «Рацыянальнага дома». У Менску да канца года будзе пабудавана чатыры дамы, у рабоце - 16 будаўнічых пляцовак. У Гродне кампаніі будзе належаць «права першай ночы» ў шматпавярховых забудовах. Для вырашэння праблемаў з супрацьпажарнай абаронай гарадзенскіх хмарачосаў закупляюцца пажарныя вышкі. Доўгатэрміновыя ўклады інвестараў будуць выкарыстоўвацца для будаўніцтва новых мікрараёнаў. За тыя ж «доўгія грошы» плануецца будаваць дамы для адселеных з зонаў, што пайшлі пад знос.

Праграма «Рацыянальны дом» рэалізуецца ў нашай краіне з 1997 года адпаведна Указу прэзідэнта ад 17.12.96 г. Пастановай саўміна «Аб мерах па забеспячэнню прыярытэтнага развіцця жыллёвага будаўніцтва» гэтай праграме быў нададзены статус базавага дзяржаўнага эксперымента. За два гады рэалізацыі праграмы яе ўдзельнікамі сталі 2 400 сем'яў, што інвеставалі ў будаўніцтве жылля ў сённяшніх коштах тры трыльёны рублёў. Па разліках эксперта, аб'ёмы будаўніцтва жылля ў Беларусі па праграме «Рацыянальны дом» можа быць у межах 2,4 мільёны квадратных метраў у год. Акрамя Гродна плануецца адкрыццё філіялаў у Лідзе, Ваўкавыску, Слоніме.

**Алена Сіневіч**

# Рознагалоссі наконт мяжы неістотныя

**У беларускага і польскага бакоў няма сур'ёзных рознагалоссяў па праекце двухбаковага Дагавора аб рэжыме дзяржаўнай мяжы, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе па пагранічных пытаннях. Такі вывад зроблены спецыялістамі Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, якія прааналізавалі вынікі перамоў, што прайшлі напрыканцы мінулага тыдня ў польскім горадзе Супрасле пад Беластокам.**

Беларускую дэлегацыю на іх узначальваў памочнік старшыні Дзяржкамітэта пагранвойскаў палкоўнік Анатоль Чырак, польскую — намеснік дырэктара ўпраўлення аховы дзяржаўнай мяжы Галоўнай камендатуры пагранічнай варты палкоўнік Зігмунт Станішэўскі. Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, дагавор вызначае парадак вядзення на мяжы або паблізу ад яе гаспадарчай дзейнасці, карыстання памежнымі водамі, абазначэнне мяжы на мясцовасці, а таксама рэгламентуе пытанні ўтрымання дзяржаўнай мяжы.

Што да маючых месца яшчэ паміж бакамі рознагалоссяў па праекце дагавора, то, як адзначылі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта, яны, у прыватнасці, тычацца парадку правядзення абследавання абазначэння мяжы на мясцовасці на прадмет адпаведнасці дэмаркацыйным картам, праходжання мяжы на ўчастках праточных вод, ажыццяўлення будаўніцтва новых мастоў, плацін і іншых збудаванняў, якія перасякаюць мяжу.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Хлеба стала менш

**Сёлетні ўраджай збожжа ў Беларусі значна меншы, чым планавалася раней. Пра гэта было заяўлена на аператыўнай нарадзе, што прайшла 30 жніўня пад старшынствам прэм"ер-міністра краіны Сяргея Лінга.**

Паводле апошніх звестак Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі, падчас сёлетняга жніва гаспадаркі краіны сабралі 3,7 мільёнаў тон збожжа. Сярэдні паказчык ураджайнасці па краіне склаў 17,3 цэнтнера з гектара. Пераможцамі жніва-99 сталі хлебаробы Гродзеншчыны, якія намалацілі 872 тысячы тон збожжа. На апошнім месцы — Віцебская вобласць, дзе сабрана толькі 454 тысяч тон збожжа.

Працягваецца і рэалізацыя хлеба дзяржаве. На сённяшні дзень гаспадаркі краіны прадалі па дзяржзаказу 756 тысяч тон збожжа, што складае 76 працэнтаў да удакладненага задання. Паводле гэтага паказчыка сярод рэгіёнаў краіны зараз лідзіруе Брэсцкая вобласць, якая ўжо выканала дзяржзаказ на 90 працэнтаў. Найбольш маруднымі тэмпамі ідзе продаж збожжа дзяржаве на Міншчыне. На сённяшні дзень дзяржзаказ тут выкананы толькі на 67 працэнтаў.

На нарадзе быў таксама разгледжаны стан спраў з разлікамі суб"ектаў гаспадарання за газ і электраэнергію. Прынята рашэнне разгледзець гэтае пытанне на чарговым прэзідыуме Савета Міністраў. Да злосных неплацельшчыкаў будуць прынятыя самыя жорсткія санкцыі. На нарадзе былі абмеркаваныя таксама пытанні, што будуць вынесеныя на Выканкам Саюза Беларусі і Расіі, а таксама ход нарыхтоўкі на зіму прадуктаў харчавання і паліва.

**Ул. інф.**

# Запазыкі растуць

**Агульная сума запазычанасці Беларусі за пастаўлены ў рэспубліку газ складае 422,6 мільёна даляраў ЗША, з іх доўг асноўнаму пастаўшчыку — расійскаму «Газпраму» — 274 мільёны долараў. Такія дадзеныя 1 верасня на прэс-канферэнцыі паведаміў віцэ-прэзідэнт канцэрна «Белпаліўгаз» Уладзімір Каплуноў.**

Паводле яго словаў, сума запазычанасці працягвае павялічвацца — толькі доўг «Белпаліўгаза» перад «Белтрансгазам» павялічыўся з пачатку года на 17 мільёнаў даляраў. Пры гэтым самаму канцэрну «Белпаліўгаз» спажыўцы рэспублікі сёння запазычылі 102 трыльёны рублёў. Аплата бягучага ўжывання газа складае 84 працэнты. Асноўнымі ж даўжнікамі «Белпаліўгаза» з'яўляюцца спажыўцы канцэрна «Белэнерга» і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Каб хоць неяк прымусіць спажыўцоў разлічвацца па наяўных даўгах і эканоміць, «Белпаліўгаз» вымушаны скарыстоўваць абмежаванне паставак газа, аж да поўнага адключэння яго падачы буйным спажыўцам, за выключэннем жыццёва важных структур і аб'ектаў з непарыўнымі тэхналогіямі.

Як паведаміў У.Каплуноў, плануецца, што ў чацвёртым квартале гэтага года ў рэспубліку будзе пастаўлена 4,8 мільярда кубаметраў газа; акрамя таго, «Белтрансгазам» прапрацоўваецца пытанне аб дадатковых пастаўках ў межах 1 мільярда.

**Аляксей Арэшка**

# Тэлефон становіцца раскошай

**2 верасня ў Беларусі прыкметна ўзраслі тарыфы на паслугі электрасувязі. У прыватнасці, падаражэлі тэлефонныя перамовы: унутрырэспубліканскія — на 8—38 працэнтаў, міжнародныя —на 12—100 працэнтаў.**

Зараз хвіліна размовы ўнутры горада каштуе 1.800 рублёў (раней — 1.300), унутры вобласці —2.700 (2.500), паміж абласцямі — 5.400 (5.000). Што тычыцца краін былога СССР, то хвіліна зносінаў, напрыклад, з Украінай абыдзецца ў 114 тысяч рублёў (раней — у 88,5 тысячы), еўрапейскай часцю Расіі — у 135 тысяч (97,5 тысячы), азіяцкай часцю Расіі — у 165 тысяч (117 тысяч), краінамі Балты — у 141 тысячу (118,5 тысячы), Малдовай —у 144 тысячы (111 тысяч), Грузіяй — у 246 тысяч (163,5 тысячы), Азербайджанам і Таджыкістанам — у 339 тысяч (169,5 тысячы). Хвіліна размовы з Польшчай каштуе 141 тысячу рублёў (раней — 102 тысячы), Чэхіяй — 153 тысячы (127,5 тысячы), Германіяй і Францыяй — 162 тысячы (136,5 тысячы), ЗША —500 тысяч (416 тысяч), Ізраілем — 588 тысяч (490 тысяч). Самыя дарагія размовы — з абанентамі шэрагу дзяржаў Бліжняга Усходу і Паўднёва-Усходняй Азіі (Ліванам, Кітаем, В'етнамам і іншымі) — 1 мільён 172 тысячы рублёў за хвіліну.

На 43 працэнты павялічылася пагадзінная хвілінная аплата і месячная абанентная плата за карыстанне хатнім тэлефонам, пераведзеную на пачасовую аплату. Першы тарыф узрос з 300 да 430 рублёў, другі — з 66 да 95 тысяч рублёў. Апрача таго, удвая даражэй стала для насельніцтва унутрырэспубліканская тэлеграфная сувязь. За адно слова ў звычайнай тэлеграме трэба зараз плаціць 2.200 рублёў, у тэрміновай — 4.400. Міжнародны тарыф узрос у паўтара раза.

Варта адзначыць, што ранейшае павышэнне ўнутрырэспубліканскіх тарыфаў на паслугі электрасувязі адбылося 10 ліпеня, міжнародных — 15 чэрвеня гэтага года.

**Дзмітрый Уласаў**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Тры гады без перамогаў. Так трымаць?

**У Дзень Беларускай Вайсковай Славы свой апошні «гасцявы» матч адборавага турніру да чэмпіянату Еўропы 2000 года праводзіла футбольная зборная Беларусі.**

Графік выхаду нашай газеты не дазваляе нам паведаміць пра тое, ці дадала гульня са швейцарцамі славы нашаму футболу. Падзеі, якія папярэднічалі ўчарашняй гульні ў Лазане, наўрад ці падбадзёрвалі беларускіх заўзятараў. Пасля ганебнага выступу нашых клубаў у еўракубках (горш за беларускія каманды сёлета выступілі толькі прадстаўнікі карлікавай Андоры) у чарговы раз расчаравала і нацыянальная каманда Беларусі. Услед за бляклай таварыскай гульнёй з расіянамі нашы хлопцы не здолелі адолець дома і далёка не самую моцную на кантыненце каманду Уэльса. У чарговы раз поўнае фіяска пацярпела гульнёвая канцэпцыя трэнэра Міхаіла Вергеенкі, які ўпарта выстаўляе супраць любых супернікаў толькі аднаго нападніка. Калі б гэта быў гулец класу Шаўчэнкі, такая тактыка, магчыма, прыносіла б перамогі. Але калі ў апошнім складзе раз за разам выходзіць той жа Уладзімір Макоўскі, які за гульню рэдка калі б'е па чужой браме, спадзявацца на поспех наўрад ці можна.

У гульні з валійцамі тупасць атакі беларусаў часткова кампенсавалася ўдарамі «дальняй артылерыі». У ролі «артылерыстаў» найчасцей выступаў Васіль Баранаў. Васіль мог увогуле стаць героем матча, калі б у дадатак да надзвычай прыгожага гола ў першым тайме рэалізаваў бы яшчэ тры стопрацэнтовыя моманты. Але ў першым тайме аднойчы на шляху мяча, пасланага нашым паўабаронцам, стала перакладзіна. Затым з некалькіх метраў Васіль прабіў галавой вышэй брамы. А ў другім тайме магутны ўдар паўабаронцы зноў страсянуў перакладзіну.



Дзін Саўндарс, злева ігрок зборнай Уэльса спрабуе стрымаць беларуса Андрэя Лаўрыка

На фоне гэтых няўдач валійцы выглядалі гэткімі дзецьмі Фартуны: спачатку Сондэрс дабіў няўдала адбіты Туміловічам мяч, а затым «зорны хлопчык» Райан Гігз завяршыў лёгкім рухам галавы навес партнёраў.

1-2 - чарговы абаранак у афіцыйных гульнях беларусаў. Тры з паловай гады без перамогаў. Ніводнай вікторыі пры Вергеенку. Не ведаю, як адрэагуе на гэты факт сам галоўны трэнер, але дзесяць з дзесяці трэнераў іншых камандаў падалі б у адстаўку ўжо ўвечары 4 верасня.

На фоне няўдач нацыянальнай каманды, якая ўпэўнена акупавала апошні радок у турнірнай табліцы сваёй групы і месца ў канцы першай сотні міжнароднага рэйтынгу, крыху весялей выглядаюць апошнія вынікі моладзевай зборнай. Але наўрад ці варта цешыць сябе ілюзіямі. Перамога над швейцарцамі была здабыта двума брамнікамі: швейцарскі падараваў гол Дзмітрыю Агароднiку, а Гаеў не даў забіць суперніку.

Ну, а ў матчы з бліжэйшым рэзервам валійцаў пераможны мяч быў забіты Віталем Ланько ўжо ў дададзены арбітрам час. Дэманстрацыяй сапраўдных сілаў нашай моладзевай каманды стала сустрэча ў адказ са швейцарцамі. Нашы супернікі перамаглі з лікам 2:1.

Такая вось атрымліваецца восень беларускага футболу. Неўрадлівая восень.

**Вітаўт Руднік**

**P.S.:** У панядзелак у чарговым матчы першынства краіны футбалісты «Ліды» ў Барысаве згулялі 1:1 з лідарам чэмпіянату - мясцовым БАТЭ.

**Па гарызанталі:** 5. Марозны ўзор на шыбах. 6. Дакумент з ЖЭСу. 8. У назве рамана Кузьмы Чорнага яно трэцяе. 11. Абавязковы да выканання. 14. Беларуская нацыянальная страва. 15. Свежае малако. 16. На паперці з працягнутай рукой. 17. Другі па велічыні горад Літвы. 20. Горная парода. 22. Паляўнічы сабака. 23. Сякера для абчэсвання бярвення. 26. Беларуская гімнастка, чэмпіёнка свету. 27. Духі, адэкалон. 28. Панская сядзіба.

**Па вертыкалі:** 1. Рабочы стол цесляра. 2. Частка заробку чыноўніка. 3. Іван Навуменка. «... пры дарозе». 4. Смачная яна пасля чаркі. 7. Пажыткі ў торбе. 9. Горад, які забяспечвае Беларусь дзіцячымі малочнымі прадуктамі. 10. Паэма Тараса Шаўчэнкі. 12. Непрадбачная падзея. 13. Хімічны элемент, метал. 18. Добра, каб яе давалі без працэнтаў. 19. Што адкрываюць у банку? 21. Уладар пекла. 24. Пучок валасоў. 25. Гэта ўжо занадта!



**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 53 (430).**

**Па гарызанталі:** 1. Крумкач. 5. Беларус. 9. Аер. 10. Лагойск. 11. Аўчынка. 12. Акт. 14. Мюнхен. 16. Мімоза. 17. Рахунак. 20. Ткач. 23. Макет. 24. Этна. 26. Ухіл. 27. Трук. 28. Штаб. 30. «Татра». 32. Юрта. 35. Актрыса. 37. Ярутка. 38. Абсцэс. 39. Аса. 41. Цэнтнер. 42. Валадар. 43. Фае. 44. Чукотка. 45. Нароўля.

**Па вертыкалі:** 1. Кулямёт. 2. Узгонка. 3. Кайзер. 4. Чака. 5. Брат. 6. Лічнік. 7. Рангоўт. 8. Спагада. 13. Крук. 15. Намітка. 16. Матраса. 18. Халат. 19. Нетры. 21. Кут. 22. Чуб. 24. Экю. 25. Ніт. 28. Шляхціч. 29. Акучнік. 31. Трус. 33. Рэцыдыў. 34. Аўстрыя. 35. Аканіт. 36. Абеляр. 39. Арфа. 40. Авен.

# Анекдоты

Няголены, увесь сіні бомж з кучай торбаў падыходзіць да пункту здачы шклатары.

- Вы бутэлькі з-пад шатландскага віскі прымаеце?

- Не!

- А чаму?

- Няма тары, сэр!



Доктар пацыенту.

- Т-э-э-экс, на наступным тыдні вас пагледзіць Сяргей Сцяпанавіч...

- А хто гэта такі?

- Наш паталагаанатам.



Званок у кабінеце Ельцына.

Памочнік бярэ трубку.

- Барыс Мікалаевіч, Вас прэм'ер-міністр.

Ельцын:

- Калі гэта Чарнамырдзін ці Кірыенка, то мяне няма, калі гэта Прымакоў ці Сцяпашын, то я вазьму.

Памочнік:

- Гэта Пуцін!



«Новаму рускаму» прыходзіць паведамленне на пэйджэр: «Татка! Тэрмінова завязі страусаў у Антарктыду. Сыплюся па геаграфіі!»



- Ну і чаму ты спазніўся? Праспаў? Не мог знайсці партфель? Трамваі не хадзілі?

- Не, настаўнік. Проста я выйшаў з дому пазней, чым патрэбна.

- А чаму ты не зрабіў гэта своечасова?

- Калі я выйшаў, ужо было позна выходзіць раней...




Сварацца два ангельцы.

- Мілорд, Вы - падлец!

- Ад мілорда чую!!!

# Колькі часу?

«Добры дзень!» - кажаце Вы і падаеце руку (калі Вы мужчына). А як падаюць руку Вам? Калі далонь уніз - чалавеку ёсць што ўтойваць. Калі даланёю ўверх, то перад Вамі адкрытая натура, «душа наросхрыст» альбо, як кажуць, «у дошку свой» чалавек. Большасць людзей - «сярэдзіна напалову»: у нечым шчырыя ды адкрытыя, у нечым стрыманыя - звычайна яны падаюць далонь рэбрам.

Калі вітаецеся і ціснеце знаёмаму або партнёру руку, звярніце ўвагу на ягоны гадзіннік. Механічны гадзіннік з арабскімі лічбамі на цыферблаце сведчаць, што руку Вам падаў кансерватар. Калі гадзіннік мае ўказальнік даты - будзьце напагатове: не выключана, што перад Вамі той, хто ўмее атрымаць для сябе выгаду ў любой сітуацыі. У людзей слабахарактарных і нерашучых звычайна гадзіннікі з гукавым сігналам. Калі ж чалавек зусім не носіць гадзінніка - ён малады душою, энтузіяст і рамантык, якога жыццё яшчэ шмат чаму навучыць.

# Ліга збяднела і зніveлявалася?

**Неўпрыкмет за летняй цеплынёй стартаваў зімовы спартовы сезон. У сталіцах Украіны і Беларусі распачаўся V чэмпіянат Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі. Як і летась, удзел у ім бяруць 8 клубаў з трох дзяржаваў: «Сокал» (Кіеў), «Нёман» (Гродна), «Палімір» (Наваполацк), «Цівалі» (Менск), «Беркут-Кіеў», «Металургс» (Ліепая), «Ірбіс» (Кіеў, экс- «Ільдзінка») і «Юнацтва» (Менск).**

Турнір пройдзе па наступнай сістэме. На першым этапе клубы згуляюць у чатыры кругі з раз'ездамі, праводзячы спараныя гульні. Пасля гэтага спаборнікі падзеляцца на два квартэты, якія працягнуць барацьбу без уліку раней здабытых ачкоў. Пры падзеле на групы «А» і «Б» будзе скарыстаны прынцып цотнасці. Далей каманды чакаюць яшчэ 4-ны кругі ў падгрупах. Завяршаецца ўсё класічным плэй-офам. У чвэрцьфінале змагание пойдзе да двух перамогаў, далейшыя нюансы серыі плэй-оф пакуль не вызначаныя.

Характэрна, што ў чарговым турніры будзе адсутнічаць прызавы грашовы фонд. Выдае на тое, што за міжсезонне клубы-ўдзельнікі Лігі не пабагацелі фінансава. Застаецца спадзявацца, што яны не збяднелі на хакейныя таленты.

Склад гарадзенскага «Нёмана» зазнаў істотныя страты. За ліепайцаў цяпер будуць выступаць лепшы нёманскі снайпер і распасоўшчык, улюбёнец гарадзенскай публікі Аляксандр Пстыга (без яго вельмі цяжка ўявіць каманду), а таксама, бадай, самы тэхнічны форвард, Юрый Чух. Яшчэ адзін нападнік - Яўген Есаулаў падаўся ў менскі «Цівалі». Пакінулі Нёман» і цэлы шэраг расейскіх легіянераў: Бунякін, Азолін, Артамонаў. Зноў заяўлены за нёманцаў Ілья Паліцынскі, які апошнія гады перманентна ад'язджаў у Польшчу. Ёсць надзея, што ў бягучым сезоне выявяць свае лепшыя якасці маладыя: Руслан Белы, Павал Варывончык, Андрэй Гідрэвіч, Дзмітрый Дубень. Хаця асноўны «воз» давядзецца цягнуць ветэранам, працэс змены пакаленняў і арыентацыя на маладую моладзь непазбежныя. На мой погляд, чакаць значных поспехаў ад нёманцаў у надыйшоўшым чэмпіянаце (нагадаем, што прынёманскі клуб быў першым пераможцам лігі, а апошнія два гады срэбраным прызёрам) не варта. Ускосным пацверджаннем таму служыць і першая няўдача за ўсе гады на традыцыйным Кубку «Крыніцы». Так што заўзятарам каманды трэба набрацца цярпення - сезон абяцае прайсці пад шыльдай «пераходны».

Першыя спатканні пацвердзілі тэзіс пра нівеляванне сілаў клубаў спаборніцтва. Усе сустрэчы 4-5 верасня завяршыліся падзелам ачкоў: «Юнацтва» - «Цівалі» - 3:4, 5:2; «Сокал» - «Беркут» - 0:1, 5:2; «Ірбіс» - «Нёман» - 3:0, 1:6 (шайбы ў гарадзенцаў закінулі Лантратаў, Кадыраў, Малашкевіч, Лісічкін, Чурабаеў і Стэфановіч). Наступныя паядынкі нёманцы правядуць 11-12 верасня з «Цівалі» ў гасцях. З-за адсутнасці ўласнага лёду (у палацы працягваюцца будаўнічыя работы) падначаленія Анатоля Варывончыка будуць пакуль трэніравацца ў Менску.

**Хельмут Каменскі**




♈ **Баран (21.03-20.04).** Пасля прыемнага ўікэнда поспехі на любоўным фронце і халодны душ на працы. Можаце спадзявацца на дапамогу Льва.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Па-ранейшаму добрая паласа і поспех у бізнесе. Меркуровы абяцае прыток наяўных. Запрасяць на вяселле. Магчымы флірт з некім з-пад знаку Рака.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Стрымлівайце свае эмоцыі і беражыце нервы, асабліва ў чацвер. Апошні «подзвіг» Вашага партнёра - гэта толькі няшчасны выпадак на вытворчасці.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Уікэнд прысвяціце аднаўленню сілаў. Рэкамендуецца выезд на дачу ці ў лес. Вернецеся з поўным кошыкам дароў прыроды і новымі ідэямі на восень.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Восень не будзе для вас засмучальнай, калі завалодаеце сімпатыяй Барана, які прынясе Вам незабыўныя хваляванні.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Поспех на ўсіх галінах. Асабліва фінансавых, хаця трэба быць асцярожнай з Рыбамі.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Венера па-ранейшаму спрыяе Вам. Не сядзіце ў хаце - адпраўцеся на вернісаж ці ў кіно. На працы трэба закончыць распачатыя справы хаця б да серады.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Поспех на працы забяспечаны. Аднак зоркі не раяць заўчасна раскрываць планы.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** У суботу падрыхтуйцеся для прыёму гасцей. Скарыстайцеся кулінарнымі рэцэптамі з часопісаў.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вам трэба запаволіць тэмп працы. Толькі на Вас трымаецца ўся праца на фірме. Адрыў ад абавязкаў дазволіць на ўсё зірнуць з боку.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Паспяховыя дні і шчаслівы фінал справы, якая зацягнулася. Ва ўзнагароду сходзіце з каханымі ў кіно.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Абавязкова паклапаціцеся пра дастатковую колькасць у Вашым меню садавіны і гароднiны, таму што арганізм перастройваецца на асеннi перыяд.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Палiграфістаў, 4. Замова 3 659 Наклад 8 790 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 08.09.1999 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Тацццяна Лучыц
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей